PL ISSN 0546—1960
Nr INDEKSU 366714
№ ІНДЭКСА Ў КАТАЛОГУ „САЮЗДРУКУ“ 36911

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 12 (1819) ГОД XXXVI БЕЛАСТОК 24 САКАВІКА 1991 г. ЦАНА 800 зл. (50 кап.)

ПОМНІКІ КУЛЬТУРЫ

## ЦАРКВА Ў КРУШЫНЯНАХ

Крушыняны — вёска, вядомая ва ўсёй Польшчы. Пішуць аб ёй усе турыстычныя даведнікі, а цэлы год прыязджаюць сюды экскурсіі, каб паглядзець адзін з двух у Польшчы мячэцяў і татарскі могільнік.

Пісьмовыя крыніцы ўпамінаюць вёску ўжо ў XVI ст. Ляжыць яна ў даліне рэк Нетупа і Свіслач. Сёння, так як бальшыня вёсак на т.зв. Усходняй сцяне, захавала яна свой характар і арыгінальную панараму, выкліканую масавай міграцыяй маладога пакалення ў гарады.

У вёсцы, апрача беларусаў і палякаў, жывуць некалькі татарскіх сем'яў. Як гаворыць легенда, асадніцтва татараў пачалося таму, што ў час бітвы пад Парканамі ў 1863 г., дзе змагаліся польскія войскі Яна III Сабескага з туркамі, адзін з ротмістраў татарскай харугві — Самуэль Кжачоўскі выратаваў жыццё каралю. Сабескі назначыў свайго выратавальніка палкоўнікам і падараваў яму вёску Крушыняны, у якой потым пасяліліся падуладныя Кжачоўскага. Іншая легенда гаворыць, што татарскія асаднікі насялялі землі Вялікага княства Літоўскага і Рэчыпаспалітай у XIV—XV ст., прыбыўшы з Залатой арды і надвалжанскіх ханатаў.



*Драўляная царква ў Крушынянах, якая згарэла 11 снежня 1983 г.*

Здаўна гэтую тэрыторыю насялялі вернікі ўсходняга абраду. Выдадзеная ў XIX ст. „Археологическая карта Гродненской губернии“ пісала, што ў вёсцы Крушыняны існуюць два старажытныя могільнікі. Адзін гэта „Рускія могілкі“ плошчай у адну дзесяціну, а другі, на адну трэць меншы, — „Высокія могілкі“. Сёння можна сказаць, што першы могільнік быў прызначаны хрысціянам, другі — мусульманам.

Крушыняны належалі калісьці праваслаўнаму прыходу ў Крынках. Невядома калі была збудавана першая царква ў Крушынянах. Каталог помнікаў Інстытута мастацтва падае, што царква св. Анны была ўзведзена ў II палове XVIII ст., а высвяцілі яе ў 1791 г. Іншыя крыніцы інфармуюць, што царкву збудавалі жыхары вёскі са складчын і высвяцілі яе 25 ліпеня 1829 г.

Да I сусветнай вайны царкву неаднойчы аднаўлялі. Напрыклад, царкву высвяцілі 25 ліпеня 1891 г. пасля капітальнага рамонту і ўстанаўлення іканастаса з прыхадской царквы ў Крынках (там збудавалі новы іканастас). Могілкі тады абвялі парканам з палявога каменя Таксама ў 1903 г. (25 ліпеня) высвяцілі царкву, бо быў пабудаваны прытвор. Вёска ў гэтым годзе налічвала 761 чалавек.

У міжваенны перыяд могільнікаву царкву абслугоўвалі духоўнікі з Крынкаўскага прыхода. На могілках хавалі выключна праваслаўных.

Пасля II сусветнай вайны праз некалькі гадоў праваслаўныя вернікі з Крушынянаў дабіваліся ў царкоўных улад правіць набажэнства ў кожную нядзелю і ў святы. Згода прыйшла ў 1958 г. Мітрапаліт Макары дазволіў стварыць філіял праваслаўнага прыхода ў Крушынянах з асобнай адміністрацыяй з 1960 г. Да філіяла ў Крушынянах далучылі вёскі з былога прыхода Галынка, якія пасля ўстанаўлення дзяржаўнай мяжы з СССР, апынуліся на польскім баку: Лужаны (24 дамы), Ласіняны (38), Рудакі (40). У Крушынянах было тады 80 праваслаўных дамоў. Стварэнне самастойнай пляцоўкі ажывіла вернікаў. У гадах 1958-1960 з добраахвотных складчын была пабудавана плябанія, а ў 1962 г. — гаспадарчы будынак. Найбольш ахвярныя прыхаджане гэта: Аляксандр Байсіцкі, Аляксандр Макаль, Канстанцін Макаль, Уладзімір Кірмуць, Галена Бурачэўская, Надзея Бяган-

(Працяг на стар. 4)



*Новая мураваная царква ў Крушынянах.*

## БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР 1991

У пачатку сакавіка паказалася кніжнае выданне беларускага календара*) на 1991 год. Справа з гэтым выданнем марудзілася недзе ад паловы снежня мінулага года. Штораз у рэдакцыю „Нівы“ заходзілі людзі, дапытваючыся, дзе і калі можна будзе яго набыць. Збянтэжаны рэдактар сёлетняга календара Ян Максімюк — ён жа ў прыватнасці мой брат — адказваў: „праз два тыдні“ альбо „праз тыдзень“, а затым браў трубку тэлефона, набіраў нумар друкарні ў Бельску-Падляшскім і давай ім там... Гэткім чынам даехалі да сакавіка. Факт, што ўдалося аформіць справу календара на 1991 год яшчэ перад канцом гэтага ж года, цяжка лічыць подзвігам, але поспех тут відавочны. З гэтай нагоды некалькі слоў пра саму кніжку ды пра працу над яе рэдакцыяй.




Беларускі каляндар мае ўжо трыццаціпяцігадовую, а дакладней кажучы трыццаціпяцікніжную гісторыю. Першая кніжка выйшла ў 1957 годзе, гэта значыць амаль у тую самую пару, што „Ніва“ ды беларускамоўныя перадачы па Беластоцкім радыё. Як ні глядзі, а „Ніва“, радыёперадачы ды каляндар — гэта тры прапагандавыя падставы беларушчыны ў Беластоцкім краі. Каляндар фактычна па

(Працяг на стар. 2)



— 31 —

Ужо давялося мне пісаць аб тым, што Каталіцкі касцёл у БССР мае прапольскі характар, а Праваслаўная царква і камуністычная партыя — праруская. Так, гэтыя дэістычныя і атэістычныя айцы народу пастанавілі служыць чужым народам, а не народу ўласнаму. Пакіну на баку іх сервілізм у адносінах да чужых народаў, займуся іх нігілізмам у адносінах да беларускай нацыі. Зрэшты, не пакіну! Мушу сказаць, што апаноўвае мяне часам злавесная думка аб тым, што добра было б усіх гэтых выродкаў паслаць на пастаяннае жыццё ў тыя чужыя краіны, якім яны так верна служаць. Чаму? Таму, што здзіўляе мяне, чаму гэта яны так моцна заўзяліся на Беларусь? Ці не ўласцівей, ці не лягчэй было б ім жыць і дзейнічаць сярод тых народаў, якія многа мілей іх сэрцу, чым народ беларускі?

Назваў я гэтых рэлігійных і палітычных дзеячоў айцамі БССР. Зразумела, што назоў гэты мае іранічны характар. Як гэта не дзіўна і не парадаксальна, але сапраўдныя айцы народу мусяць быць сапраўднымі сынамі народу. Нельга гэтага сказаць аб тых усіх, хто не карыстаецца народнай мовай, а пры гэтым займае найвышэйшыя рэлігійныя, адміністрацыйныя і партыйныя пасты ў беларускай дзяржаве.

## АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

Ёсць і яшчэ адна спецыфічная справа. І высокія касцельныя ды царкоўныя іерархі і не менш высокія партыйныя і дзяржаўныя дзеячы лічаць сябе, несумненна, не толькі айцамі народу, але і яго настаўнікамі. Вось гэтыя айцы і настаўнікі проста-напраста не ведаюць беларускай мовы. Калі б імкнуліся ёю авалодаць, мусілі б стацца вучнямі, узяць у рукі лемантары, звярнуцца за дапамогай да настаўнікаў, паказаць свае фундаментальныя няведы, выявіць сваю поўную некампетэнтнасць у галіне беларускай мовы і беларускай культуры. Але ці ж гэта магчыма, каб айцец і настаўнік схацеў дабравольна стацца вучнем?

І яшчэ адна, бадай што найважнейшая справа. Людзі, аб якіх я гавару, не маюць беларускай нацыянальнай свядомасці. І тут асабістую прэтэнзію маю да партыйных дзеячоў. Яны ж у далейшым праяўляюць сваю прывязанасць калі не да сталінізму, дык да ленінізму. А гэта ж Ленін у артыкуле „Аб нацыянальнай гордасці велікаросаў“ гаварыў аб гарачай прывязанасці рускіх камуністаў да роднай мовы і культуры. Ці ж беларускія камуністы, якія, мабыць, творча трактуюць ленінізм, не разумелі, што яны, сыны беларускай нацыі, павінны тое ж самае гаварыць аб сваёй прывязанасці і сваёй адданасці беларускаму народу, беларускай свядомасці і беларускай мове?! Ці ж не разумеюць яны, што паступаючы па-другому і праяўляючы вернасць чужой мове і чужой свядомасці, здраджваюць свайму настаўніку і правадыру Леніну? Сказанае датычыць таксама і прадстаўнікоў Царквы. Ці ж у гісторыі Праваслаўнай рускай царквы мала было іерархаў, якія рускі патрыятызм трактавалі як галоўны крытэрый сваёй чалавечнасці? І ці ж такая пастава рускіх духоўнікаў не абавязвала да вернасці нацыянальнай беларускай свядомасці ўсіх беларускіх духоўнікаў?

На працягу многіх дзесяткаў гадоў Камуністычная партыя Беларусі вяла жорсткую барацьбу з Праваслаўнай царквой і Каталіцкім касцёлам. Партыя прадстаўляла прадстаўнікоў Царквы і Касцёла як здраднікаў беларускага народа, як яго ворагаў, як агентаў чужых дзяржаў. І толькі сёння ўсведамілі мы сабе элементарную праўду, якая заключаецца ў тым, што як Касцёлу і Царкве, так і партыі можам паставіць той самы закід нацыянальнага нігілізму, абыякавасці, пагарды ў адносінах да беларускіх нацыянальных каштоўнасцей і закід сервілізму і вернападданства ў адносінах да чужых партый. Аб сораме гаварыць тут можам смела, аб гонары пакуль што памаўчым.

**Алесь Барскі**

## КОНКУРС НА БЕЛАРУСКІ ВЕРШ ПАДСУМАВАНЫ

Падведзены вынікі конкурсу на беларускі верш, які арганізавала беларуская рэдакцыя польскага радыё ў Беластоку. Конкурс быў спансараваны беластоцкай гандлёвай фірмай „Галюкс“. Гэтая ж фірма і прызнала пераможцам узнагароды.

На конкурс даслалі свае творы асобы рознага ўзросту — ад 10 да 60 гадоў. Дзеці пісалі аб прыродзе. У старэйшых — у сэрцы перажытыя гады, найчасцей гэта балады аб сардэчных ранах пражытага жыцця. Маладыя людзі выказваюць свае пачуцці, адносіны да рэчаіснасці і летуценні-мроі — прывілей маладосці.

Ды і па колькасці твораў дасылкі былі вельмі розныя. Янка Целушэцкі, шматгадовы „белавежац“, даслаў столькі, што можна было б выдаць някепскі зборнік. Але большасць аўтараў зразумела конкурс даслоўна: адзін-два вершы.

Вельмі цікавыя творы даслалі вучні з ліцэяў Бельскага і Гайнаўскага, а таксама студэн-

**(Працяг на стар. 5)**

## З мінулага тыдня

**Сейм вырашыў самараспусціцца восенню 1991 года.** Яго роспуск абазначае таксама спыненне дзейнасці Сената. Сейм выказваецца за тое, каб яго дзейнасць закончылася напярэдадні чарговых парламенцкіх выбараў, аб'яўленых Прэзідэнтам РП, у згодным з законам тэрміне, але не пазней 30 кастрычніка.

**Раду нацыянальных меншасцяў у Польшчы** вырашылі стварыць на сустрэчы ў Варшаве прадстаўнікі розных арганізацый, партый і рухаў нацыянальных меншасцяў. Гэты форум мае дапамагаць садзеянню, узаемадапамозе і абмену інфармацыямі і аб праблемах меншасцяў. У заснавальніцкай сустрэчы прымалі ўдзел прадстаўнікі БДА, БГКТ, Цэнтральнай рады нямецкіх таварыстваў, Літоўскага таварыства св. Казіміра, Грамадзянскага круга лемкаў.

**Беласток рыхтуецца да візіту папы Яна Паўла II.** Група экспертаў, якую ўзначальвае дырэктар прэс-цэнтра IV паломніцтва папы ў Польшчу **а. Станіслаў Апеля,** пазнаёмілася з падрыхтоўкай і наведала аэрадром Крыўляны, Вышэйшую духоўную семінарыю, Фарны касцёл і Святамікалаеўскі сабор. Узгоднена, што ля ўвахода ў сабор праваслаўнае духавенства прывітае папу, а затым пачнецца экуменічнае набажэнства, якое служыць будзе пратаярэй з дванаццацю памочнікамі. Прамовы скажуць **архіепіскап Сава і Ян Павел II.**

## ЗАЯВА

**70 гадоў таму ў Рызе між урадамі бальшавіцкай Расіі і адроджанай пасля 123 гадоў падзелаў Рэчыпаспалітай быў падпісаны пакт аб размежаванні зонаў уплыву. Гэты факт вырашыў аб спыненні дзяржавастваральных працэсаў беларускага і ўкраінскага народаў і адмоўна паўплываў на сукупнасць міжнацыянальных адносін у гэтай частцы Еўропы. Недахоп сумленнай гістарычнай і палітычнай ацэнкі гэтага пакту некарысна адбіваецца на нармалізацыі суадносін між Польшчай і яе найбліжэйшымі суседзямі на ўсходзе.**

**По ўпаўнаважанні
ГАЛОЎНАЙ РАДЫ
БЕЛАРУСКАГА ДЭМАКРАТЫЧНАГА АБ'ЯДНАННЯ
Сакрат Яновіч
Віктар Стахвюк**

# Беларускі каляндар 1991

**(Працяг са стар. 1)**

сённяшні дзень зберагае працягласць выдавецкай справы ў галіне кнігі. Вядома, што з іншымі кніжнымі выданнямі на беларускай мове бывала па-рознаму, у залежнасці ад сакратароў ды агульных накірункаў дзяржаўнай палітыкі, а вось каляндар паказваўся штогод — як, дарэчы, і выпадала б з увагі на характар гэтага выдання. На працягу цэлай сваёй гісторыі беларускае выданне календара было свайго роду мяшком, у які траплялі разнастайныя творы прагных публікацый аўтараў. На старонках календара паяўлялася публіцыстыка, гістарычныя доследы, проза, вершы, гаспадарчыя парады і шмат што іншае. Маючы на ўвазе гэтую традыцыю, укладальнік календара на 1991 год падзяліў кніжку на вось такія тэматычныя часткі: каляндарнае, у БГКТ і не толькі (хроніка беларускага руху), свойскае, размоўнае, палітычнае, чарнобыльскае, гістарычнае ды літаратурнае. Больш як палова змешчаных у календары матэрыялаў мае публіцыстычны характар. Зараз усім стане вядомым, у які бок я тут гну. Публіцыстыку сама лепш змяшчаць у такой перыёдыцы, як тыднёвік, а тыднёвікі ў нас два: „Ніва“ і „Часопіс“. Што адносіцца да літаратуры, дык яна таксама мае належнае ёй месца — альманах альбо аўтарскі зборнік. Вывад адгэтуль адзін: трэба паволі адыходзіць ад прадстаўленай тут ідэі календара, паколькі ў апошнім часе адчыніліся нават для беларусаў шырокія выдавецкія магчымасці, з якіх ужо поўнай жменяй карыстае Літаратурнае аб'яднанне „Белавежа“. Сам каляндар добра было б абмежаваць усяго да каляндарнай часткі, гэта значыць, кожнаму месяцу прысвяціць адзін лісток, на якім былі б распісаныя імяніны і святы (як правіла) ды нейкі іншы матэрыял паводле вырашэння і жадання выдаўца. Гэтак было б танней, прасцей і хутчэй. Выданне календара ў кніжнай форме звязана з шматлікімі цяжкасцямі, перад усім цяжкасцямі, што адносяцца да арганізацыі самога літаратурна-публіцыстычнага матэрыялу. Якія іншыя цяжкасці? Запытайце самога ўкладальніка. Я паўтару толькі адну пачутую ад рэдактара фразу: „Хто раз узяўся за ўкладанне календара, таго другі раз на гэтую справу так лёгка не намовіш“.

**Аляксандр Максімюк**

*) **БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР 1991,** Выданне Галоўнага праўлення БГКТ у Беластоку. Рэдактар — Ян Максімюк, праектант вокладкі — Уладзіслаў Петрук. Тыраж — 5000 экземпляраў. Цана 1 экземпляра — 5000 зл.

Каляндар можна набываць у аддзелах БГКТ у Беластоку, Бельску і Гайнаўцы ды ў рэдакцыі „Нівы“.

## УПРАВА „БЕЛАВЕЖЫ“

**— запрашае на сустрэчу з творчасцю Уладзіміра Гайдука.** Спатканне адбудзецца 24 сакавіка г.г. (нядзеля), у 11 гадзін у памяшканні Аддзела Саюза польскіх пісьменнікаў у Беластоку, вул. Кілінскага 6,

**— выказвае сардэчную падзяку Ірэне і Андрэю Гаўрылюкам з Ольштына** за 50.000 зл., пералічаных на рахунак літаб'яднання,

— прыпамінае нумар свайго рахунка: PBK I Oddział Białystok 370406-200107-132 Białoruskie Stowarzyszenie Literackie „Białowieża“.



*Лявон Тарасэвіч сярод прыхільнікаў свайго таленту.*

# ЖОЎТАЕ І ЗЯЛЁНАЕ

Вышэйшую мастацкую школу ў Варшаве Лявон Тарасэвіч закончыў у 1984 годзе. Яго непасрэдным настаўнікам і духоўным натхніцелем быў вядомы польскі мастак Тадэуш Дамінік. За няцэлых сем гадоў сваёй працы Л. Тарасэвіч здолеў прабіць сабе шырокую дарогу ў свет. З'яўляецца ён тыповым прадстаўніком сучаснага абстрактнага мастацтва, так моднага сёння на Захадзе. У сваёй працы малады мастак абапіраецца ў асноўным на натуральных колерах і формах прыроды.

Жыве ў Валілах-вёсцы, у некалькіх кіламетрах ад роднай мясцовасці Валілы-станцыя, дзе засталася яго маці. Там, у былой школе, якую прыстасаваў на сваё памяшканне для жыцця і творчай працы, малюе ён свае палотны.

Калі хто ўяўляе сабе, што можна прыехаць у вёску Валілы і адразу застаць там Лёніка, то глыбока памыляецца. Цяжка сустрэцца з ім, калі не дамовішся аб гэтым раней. То ён арганізуе недзе сваю выстаўку — у краіне або за граніцай, то паехаў на важную выстаўку сябра ў Варшаву ці ў іншы горад Польшчы. Трэба ж быць у курсе спраў, трэба ведаць аб усім, што дзеецца ў сучасным польскім мастацтве! А ёсць жа яшчэ беларускія справы, у якіх Лявон Тарасэвіч бярэ актыўны ўдзел.

1 сакавіка г.г. у Акругoвым музеі ў Беластоку, які месціцца ў гарадской ратушы, адкрылася індывідуальная выстаўка Лявона Тарасэвіча, мастака, за творчымі здзяйсненнямі якога сачыла „Ніва" ад самага пачатку яго станаўлення. Выстаўка гэта была прывезена з Кракава, дзе яна ўжо была паказана ў найбольш прэстыжнай кракаўскай галерэі „Кжыштафоры", звязанай непасрэдна з дзейнасцю Кантара, Навасельскага.

Фактычна нічога не змянілася. Лёнік застаўся Лёнікам. Ёсць абстракцыя і ёсць прырода. Змяніліся толькі колеры. Раней пераважалі колеры чорна-бурыя, натуральныя, колеры карычневай скібы зямлі, шэрага зімовага лесу, чорных птушак. На гэтай выстаўцы Лёнік паказаў толькі два колеры — жоўты і зялёны. Чаму? Проста таму, кажа, што пачаў маляваць гэты цыкл летам, тады якраз такія колеры панавалі навокал.

На выстаўцы сабралася шмат людзей. На жаль, прыйшло вельмі мала мастакоў з так званага беластоцкага асяроддзя, хаця былі госці з Варшавы і нават далейшых мастацкіх цэнтраў. Пераважалі прадстаўнікі беларусаў з цэлага ваяводства, а таксама мастацкая моладзь, зафасцынаваная маланкавымі поспехамі Лявона Тарасэвіча. Усе прысутныя падзяліліся як бы на два лагеры. Адны называлі некаторыя карціны „жаўтком", „кітайцам", прабавалі кпіць з манатоннасці колераў, гаварылі, што Лёнік зажартаваў з гледача, заняўшы тры залы Акруговага музея вельмі падобнымі да сябе карцінамі, рознячыміся толькі памерамі і формамі.

А факт, што былі яны формы нязвыклай, бо, напрыклад, карціна даўжыні 11,2 м — шырыні мо метр з чымсьці, або павешанае ў форме папярочнай дошкі палатно, памаляванае жоўтым, даўжынёю ў метры 3; а нават і для карцінкі сантыметраў 30×30 спатрэбілася мастаку цэлая сцяна. Нягледзячы на ўсё гэта, карціны стваралі адну цэласць.

Быў, аднак, і другі лагер, і некаторыя з яго нават адчайна дыскутавалі з першым лагерам. Не былі гэта тыя, што паддаліся модзе на творы Лёніка, а тыя, якія хацелі заглянуць глыбей у душу мастака. Калі спрабуеш глянуць з гэтай пазіцыі, убачыш жоўты лотаць, што прылёг між зялёнымі травамі пад павевамі ветру, зялёны лес-бор, якраз такі, які сустрэнеш у раёне Валілаў, траву на балоцістых купінах, якіх нямала ў тых ваколіцах. А вось жыта — жоўцеькае на фоне ўсеабдымнай зелені; а мо гэта толькі прамень сонца, які прабіўся праз Лёнікаў лес...

— Ну, што гэта? — спытаўся нехта з маладых. — Жаўток ці куранЯ?

— Цяпло, — кажу. — Сонца, святло. Лета.

І мне хацелася б так чытаць далей усе гэтыя карціны. Жоўты — цяпло, сонца, жыццё; зелень — надзея, рост, радасць.

Аглядаючы індывідуальную выстаўку Лявона Тарасэвіча, цяжка было дзівіцца, што не было яго на папярэдняй выстаўцы прац беластоцкіх творцаў. Вялікія палотны, трэба для іх шмат месца, а да таго ж яшчэ выстаўка тады якраз была ў Кракаве. Лёнік кажа, праўда, што быў ён заняты ў той час якраз іншымі выстаўкамі, між іншым, яшчэ ў Венецыі, але ўлады не далажылі асаблівых стараннаў, каб і яго карціны знайшлі сабе месца на той выстаўцы.

Цяпер з Германіі вярнулася выстаўка польскага мастацтва, у якой бярэ ўдзел і Л. Тарасэвіч. Яе арганізавала фундацыя Конрада Адэнаўэра, яна шмат ездзіла па Нямеччыне, а цяпер дэманструецца ў варшаўскай „Захэнце".

Што датычыць планаў мастака на бліжэйшую будучыню, дык між 20-30 сакавіка ён хоча трапіць у Мінск, дзе будзе весці размову наконт выстаўкі ў Палацы мастацтваў, якая плануецца на лістапад-снежань г.г. У красавіку мае адбыцца выстаўка ў Стакгольме ў галерэі Нордэнгаке. Якраз у гэтай справе К. Нордэнгаке прыязджаў да Лёніка ў пачатку сакавіка. Плануецца таксама выстаўка графікі ў Англіі, у якой хоча ўзяць удзел мастак, а таксама зборная выстаўка ў Германіі. У кастрычніку паказаная ў Беластоцкай ратушы выстаўка Лявона Тарасэвіча мае дэманстравацца ў Варшаве. Дык зычым поспехаў!

**Ада Чачугэ**

**Фота Юркі Андраюка**

## СУМНАЯ ПЕРСПЕКТЫВА

Беласточчына залічваецца да самых бедных у карысныя выкапні частак Польшчы. Крыху глінаў, жвіраў, крэйды, торфу, пяскоў — вось і ўсё. Выкапні гэтыя маюць невялікае гаспадарчае значэнне. Надзеі ўзбуджалі недаследаваныя глыбінныя тоўшчы зямной кары ў паніжэннях заходняй ускраіны аграмаднай Усходне-еўрапейскай платформы і асабліва Падляшска-Брэсцкай упадзіны, якая ў выглядзе талеркі пад паверхняй зямлі займае каля 30 тысяч квадратных кіламетраў плошчы па абодва бакі дзяржаўнай граніцы амаль у роўных частках.

Тэарэтычнаму вырашэнню гэтага пытання прысвечана публікацыя вядомага беларускага геолага, працаўніка Акадэміі Навук БССР доктар Галіны Зінавенка пад складаным для неспецыялістаў загалоўкам: „Балтийско-Приднестровская зона перикратонных опусканий".[1]) У кнізе даецца ўсебаковая характарыстыка Балтыйска-Прыднястроўскай зоны абніжэнняў ад Паўночнага да Чорнага мора. Уведзены падзел на восем „тэрыторый", сярод якіх выдзелена ўспамянутая Падляшска-Брэсцкая ўпадзіна.

Фундамент упадзіны паніжаецца максімальна ў раёне Брэста да 9 тысяч метраў пад узровень мора. Даследаваны ён, праўда, слаба, але вядомы ў ім разломы, упадзіны, прыпаднятасці, складзеныя з пясчанікаў, глінаў, а ў каледонскіх структурах таксама мергель, вапнякі, інтрузіі магмы. Вобраз дапаўняе яшчэ складаная тэктоніка, фармаванне геалагічных структур, да якіх найчасцей прывязваюцца карысныя выкапні. Усіх геалагічных працэсаў характарызаваць няма патрэбы.

Мяне абнадзейвала праўдападобнасць пацверджання прамысловых месцазнаходжанняў нафты. І бадай Г. Зінавенка таксама на гэта лічыла. На жаль, ва ўсходняй частцы ўпадзіны ў 28 буронных знойдзены толькі яе сляды. Даследчыца выказала, праўда, думку, што больш перспектыўныя месцазнаходжанні магчымы ў заходняй польскай частцы Падляшска-Брэсцкай упадзіны, дзе знойдзены дагэтуль таксама толькі сляды нафты і газу не прамысловага значэння, а таксама мінеральныя воды. Але заўважыла, што адмоўныя геалагічныя структуры і недастатковае іх даследаванне не дазваляюць станоўча сцвердзіць знаходкі як перспектыўныя да эксплуатацыі.

З усіх васьмі „тэрыторыяў" ізноў найменш карысных выкапняў мае Падляшска-Брэсцкая ўпадзіна. Менавіта яна ахоплівае ўвесь паўднёвы ўсход Беластоцкага ваяводства (вярхоўе ракі Нарва, Бельшчыну і Пабужжа амаль да Драгічына). Не пацверджаны для Беласточчыны таксама вугаль, руды, солі, фасфарыты. Заўсёды не хапае нам чагосьці. Да ўбоства паверхні нашай роднай зямелькі дойдзе яшчэ, бадай, убоства яе нетраў.

**У. ЮЗВЮК**

[1] *Г. Зиновенко, Балтийско-Приднестровская зона перикратонных опусканий, Минск 1986, тыраж 650 экз.*

## БІБЛІЯГРАФІЧНЫ КУТОЧАК

### АЎКЦЫЁН У БЫДГАШЧЫ

Нашым чытачам-бібліяфілам звяртаем увагу, што ў днях 20-21.03 г.г. у залах Акруговага музея ў Быдгашчы (вул. Гродская № 9-11) адбыўся кніжны аўкцыён, на якім прадаваліся вось такія пазіцыі:

*Poz. 24 — Baliński M.: Dawna Akademia Wileńska, Petersburg 1862. Cena wywoławcza 200.000 zł.*

*Poz. 99 — Chodynicki H.: Sejmiki ziem ruskich w wieku XV, Lwów 1906. C.w. 20.000 zł.*

*Poz. 127 — Dangel S.: Rok 1831 w Mińszczyźnie, W-wa 1925. C.w. 45.000 zł.*

*Poz. 136 — Dębiński R.: Raskoł i sekty Prawosławnej Cerkwi Rosyjskiej, W-wa 1910. C.w. 30.000 zł.*

*Poz. 139 — Dnevnik Ljublinskago Sejma 1596 goda. S. — Peterburg 1869. C.w. 200.000 zł.*

*Poz. 206 — Giertych J.: O przyszłość ziem wschodnich Rzeczypospolitej, Bilans dwudziestolecia..., Londyn 1947. C.w. 6.000 zł.*

*Poz. 242 — Gumowski M.: Mennica wileńska w XVI i XVII wieku, W-wa 1921. C.w. 100.000 zł.*

*Poz. 364 — Kotłubaj E.: Galerja Nieświeżska portretów Radziwiłłowskich, Wilno 1857. C.w. 600.000 zł.*

*Poz. 413 — Kutrzeba S., Semkowicz W.: Akta unji Polski z Litwą, Kraków 1932. C.w. 60.000 zł.*

*Poz. 559 — Pietkiewicz Cz.: Polesie rzeczyckie, Materjały etnograficzne, Cz. 1: kultura materjalna, Kraków 1928. C.w. 32.000 zł.*

*Poz. 764 — Urban J.: Wśród Unitów na Podlasiu, Kraków 1923. C.w. 15.000 zł.*

*Poz. 840 — Zajączkowski S.: Dzieje Litwy pogańskiej do 1386 r., Lwów 1930. C.w. 20.000 zł.*

*Poz. 885 — Źródła Dziejowe, T. 17, cz. 1—3, Polska XVI wieku pod względem geograficzno-statystycznym, T. 6, cz. 1—3: Podlasie (województwo), Warszawa 1908—1910. C.w. 240.000 zł.*

*Poz. 1101 — Prusy Wschodnie: przeszłość i teraźniejszość, Poznań 1931. C.w. 40.000 zł.*

*Poz. 1230 — Gloger Z.: Białowieża, W-wa 1907. C.w. 8.000 zł.*

*Poz. 1244 — Jodkowski J.: Grodno i okolice, Jeziora augustowskie, Suwalszczyzna, Grodno 1934. C.w. 12.000 zł.*

*Poz. 1248 — Kirkor A.H.: Przewodnik historyczny po Wilnie i jego okolicach, Wilno 1880. C.w. 200.000 zł.*

*Poz. 1260 — Lisiewicz M.: Kroniki naroczańskie, Glasgow 1943. C.w. 15.000 zł.*

*Poz. 1263 — Łopalewski T.: Między Niemnem a Dźwiną, Ziemia Wileńska i Nowogrodzka, Poznań 1938. C.w. 190.000 zł.*

*Poz. 1280 — Ossendowski F.A.: Polesie, Poznań 1934. C.w. 160.000 zł.*

*Poz. 1281 — Ossendowski F.A.: Puszcze polskie, Poznań. C.w. 180.000 zł.*

*Poz. 1356 — Żmigrodzki J.: Nowogródek, Zarys historyczny, Wilno 1924. C.w. 10.000 zł.*

Не распрададзеныя на аўкцыёне кніжкі можна купіць у антыкварыяце. За інфармацыямі можна звяртацца па адрасу: Bydgoski Antykwariat Naukowy, Stary Rynek 3, 85-105 Bydgoszcz,

**Пётр Байко**

## СВОЙСКІЯ МАЛЮНКІ



*Беласток. Малюнак У. Петрука.*

## ЦАРКВА Ў КРУШЫНЯНАХ

**(Працяг са стар. 1)**

ская, Анна Чарнецкая, Ян Дарошка і іншыя. Першым настаяцелем новастворанага філіяла быў а. Мікалай Сыантовіч (1958-1961). Потым прыходам кіравалі: а. Сцяпан Якімюк (1961-1964), а. Іосіф Коўшык (1964-1971), а. Рафал Чыстоўскі (1971-1978) і а. Пётр Харытанюк (1978-1981). Рашэннем епіскапа Савы ад 19 верасня 1981 г. устаноўлены самастойны прыход, а яго настаяцелем быў назначаны а. Яўген Міхальчук. У 1983 г. замяніў яго а. Міраслаў Тамашэўскі. На перыяд ягонага душпастырства выпала вялікае няшчасце. У нядзелю 11 снежня 1983 г. пасля абеда загарэлася царква. Хаця пажар гасілі пажарнікі (прафесійная каманда з Саколкі і 3 добраахвотныя каманды), царкву не ўдалося выратаваць. Згарэла ўсё. Толькі працэсійны крыж удалося вынесці з прытвора.

У Каталогу помнікаў царква апісваецца наступным чынам: „Драўляная, зрубавай канструкцыі, маляваная, узмоцненая лісіцамі, на высокім падмурку з палявога каменя. (...) Мае план прамавугольніка, з невыдзеленай алтарнай трохгранна закрытай часткай. Інтэр'ер аднопрасторавы з плоскім перакрыццём. Дах над корпусам двухсхільны ад усходу шматгранна закрыты, над паперцю — двухсхільны пакрыты гонтай. На заходнім беражку канька вышка для звана, закончаная купалам на васьмібаковай падставе".

На наступны дзень пасля пажару епіскап Сава прыняў рашэнне аб будове новага мураванага храма. Людзі зараз жа ўзяліся за работу і 27 мая 1984 года быў пасвячаны краевугольны камень, а ў прыхадское свята (25.07) 7 жніўня была адслужана бажэственная літургія. 17 лістапада 1985 г., амаль праз два гады пасля пажару, новую царкву высвяцілі.

„Тыгоднік Падляскі" пісаў тады, што пабудаваць царкву ў такі кароткі час можна было толькі дзякуючы ахвярнасці вернікаў і замежнай дапамозе. Трэба таксама адзначыць, што малалікаму прыходу ў Крушынянах многа дапамаглі вернікі з іншых прыходаў. Кароткі тэрмін пабудовы гэта заслуга будаўнікоў, а перш за ўсё Station Станіслава Рашкоўскага, які адначасова будаваў цэрквы ў Беластоку (на Антонюку), у Дуброве-Беластоцкай і ў Чорнай-Беластоцкай.

Характэрнай рысай крушынянскай грамадскасці з'яўляецца тое, што 10 працэнтаў жыхароў гэтай вёскі складаюць мусульмане, 40 прац. — католікі і 50 прац. — праваслаўныя. Пажар царквы бачыцца бы з'яднаў усіх жыхароў, што відаць было пры ахвярнасці, калі будавалася царква. Сужыццё жыхароў гэтай вёскі наогул згоднае, няма тут такіх з'яў, як фанатызм і антаганізм.

Толькі панарама вёскі і навакolля своеасаблівая. Праваслаўныя прыдарожныя крыжы, рымска-каталіцкія каплічкі, мячэць і мусульманскія могілкі ствараюць непаўторную мазаіку культаў — рэлігійных свят і абрадаў.

**Р. С.**

## РЭПЛІКА

### AUDIATUR ET ALTERA PARS

Пад канец лютага я выбраўся ў Мілейчыцы другі раз. Ліст з запрашэннем прыслала мне пані Ліліяна Гладская з Грамадзянскага камітэта ў Мілейчыцах, прачытаўшы мой тэкст „На ахвярнік „дэмакратызацыі" („Ніва", 23.12.90). Нагадваю чытачам, што мой тэкст датычыў у асноўным справы звальнення з пасады дырэктара мілейчыцкай школы Мікалая Блашчука, якая выклікала шмат эмоцый як у самой школе сярод настаўнікаў, так і па-за ёю, стаўшыся нейкі час таму тэмай артыкулаў і палемік у беластоцкай прэсе. Сённяшні свой тэкст называю рэплікай, бо хачу выкласці погляд на справу, які прадставілі мне сябры Грамадзянскага камітэта, а погляд гэты ніяк не назавеш сугучным таму, што падчас першае пабыўкі ў Мілейчыцах гаварыў мне М. Блашчук.

Акрамя Л. Гладскай у размове прынялі ўдзел Марыя Цеслік, Галена Пархоменка, Цэзары Акунеўскі і Веслаў Мольскі. Размова пайшла спачатку пра агульныя парадкі ў гміне пасля мінулагодніх самаўрадавых выбараў, пра працу цяперашняй гміннай рады і войта, потым і пра справу дырэктара Блашчука. Думаю, што з карысцю для чытачоў будзе, калі насамперш вярнуцца да спрэчак вакол пасады дырэктара ў Мілейчыцкай школе, а потым прадставіць агульнейшы фон, на якім усё адбывалася.

Грамадзянскі камітэт і таксама школьны гурток „Салідарнасці" не былі задаволены ні кампетэнтнасцю мілейчыцкага дырэктара, ні яго выхаваўчымі метадамі і прыёмамі. Грамадзянскі камітэт двойчы ў чэрвені 1990 г. высылаў куратару П. Літэрмусу лісты з адмоўнымі ацэнкамі працы М. Блашчука. У першую чаргу ставілася яму ў закід тое, што палітычныя свае погляды — якія размінаюцца з поглядамі цяперашняга эшалону ўлады — выказвае на ўроках, у прысутнасці дзяцей, што некарысна ўплывае на выхаваўчы працэс, падрываючы давер ягоных выхаванкаў да палітычных зменаў у краіне і да дзяржаўнай ула-

**(Працяг на стар. 6)**



# У БЕЛЬСКУ НЕ БУДЗЕ ВУЛІЦЫ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ

Пачну ад няпоўнага пералічэння імён веліканаў нашай беларускай культурнай спадчыны: Гусоўскі, Скарына, Будны, Ефрасіння Полацкая, Сімяон Полацкі, Кірыла Тураўскі, Каліноўскі, Багушэвіч, Гарун, Багдановіч, Купала, Колас, Карскі, Гарэцкі, Ластоўскі, Ігнатоўскі, Гартны... Імёны гэтыя маглі б упрыгожыць і праславіць у свеце і ў вяках любую нацыю!

Слаўнае мінулае не памірае. У мінулым годзе свет ушанаваў аднаго з найвялікшых сыноў Беларусі — Францішка Скарыну. Па рашэнні ЮНЕСКА 1990 год быў абвешчаны Яго годам. Прагрэсіўнае чалавецтва адзначыла пяцісотую гадавіну з дня нараджэння беларускага і ўсходнеславянскага першадрукара, вучонага, гуманіста, аднаго з першых у Еўропе перакладчыкаў Свяшчэннага пісання на жывую народную мову. Скарынінскія ўрачыстасці праводзіліся ў Лондане, Нью-Йорку, Парыжы, Маскве, Вільні, Кракаве, Варшаве, Беластоку і, вядома, з самым вялікім размахам у Беларусі, на Радзіме слаўнага Палачаніна.

Жыву я ў старажытным горадзе Бельску-Падляшскім, заснаваным каля 1038 года вялікім рускім князем Яраславам Мудрым. 60-65 прац. жыхароў горада на Белай — гэта беларусы праваслаўнага веравызнання.

27 мая мінулага года адбыліся камунальныя выбары. З прычыны многіх акалічнасцяў здарылася так, што састаў Гарадской рады Бельска-Падляшскага неадэкватны прапорцыям нацыянальнага складу насельніцтва горада: 16 радных у ёй з Грамадскага камітэта „Салідарнасць“ (усе яны палякі), 8 — з Беларускага выбарчага камітэта, 3 — сацыял-дэмакраты беларускага паходжання і адзін радны з Руска-ўкраінскага выбарчага камітэта. Не было б у гэтым ніякіх праблем і няшчасцяў, каб... нядобрыя прадчуванні свядомых сітуацыі праваслаўных бяльчан пачалі зараз здзяйсняцца (гл. артыкулы Я. Максімюка „Новая палітыка (кадравая) у Бельску“ і „Бабах!“ у „Ніве“ з 4 лістапада 1990 г.).

Я як беларускі радны 14 верасня мінулага года звярнуўся да Гарадской рады з прапановай, каб адну вуліцу ў Бельску назваць іменем Францішка Скарыны. З такой прапановай выступіў сам, не кансультаваўшыся ні з кім, бо спадзяваўся, што і без гэтага імя вялікага чалавека будзе ўвекавечана ў назве вуліцы нашага, гістарычнай даўніны, горада. Мабыць, Скарына не адзін раз падчас падарожжа з Полацка ці Вільні ў Кракаў або Познань гасцяваў у Бельску.

У сваім выступленні расказаў я пра постаць Скарыны — слаўнага сына беларускай зямлі і ўсёй Славяншчыны, пра яго тытанічную дзейнасць, грамадскія ўчынкі і навуковыя здабыткі.

У другой частцы прамовы звяртаўся я да ўсіх радных як людзей высокай культуры, з якімі маю прыемнасць супрацоўнічаць, каб учынілі паклон беларускай нацыянальнай культуры, падмацаванай традыцыямі некалькіх стагоддзяў саюзнага злучэння Вялікага княства Літоўскага з Польскім каралеўствам і, як вучыла нас школа, традыцыямі талерантнасці і ўзаемнай пашаны ўсіх рэлігій і народаў, пражываючых у Рэчыпаспалітай. Калі б радныя прыхіліліся да маёй прапановы, пра радасную навіну, пракладваючую дарогу да дэмакратыі ў Бельску-Падляшскім, абяцаў я паінфармаваць тыднёвік „Ніва“, а таксама беларускамоўную прэсу ў Мінску і на Захадзе.

Міналі тыдні і чарговыя сесіі. Падчас сесіі, якая адбылася 30 лістапада, занепакоены лёсам маёй прапановы, перадаў я старшыні Гарадской рады пісьмовае пытанне. Старшыня рады і бурмістр горада ў размове са мной абяцалі, што на наступную сесію падрыхтуюць праект пастановы і справа вуліцы Скарыны будзе прагаласавана раднымі. Паважаным чытачам „Нівы“ падаю цэлы тэкст майго пісьмовага звароту да старшыні Гарадской рады:

*„Пан Старшыня, як далёка ў структуры Гарадской рады мая прапанова ад 14 верасня, каб адной з вуліц Бельска-Падляшскага прысвоіць назву Францішка Скарыны? Хачу напомніць, што ў гэтым годзе 500-ую гадавіну з дня нараджэння першага ўсходнеславянскага друкара, перакладчыка Біблії на старабеларускую мову ўрачыста святкуе сусветная грамадскасць.*

*Напамінаю таксама, што для ўвекавечання 70-ай гадавіны польска-бальшавіцкай вайны перайменаванне вуліцы Юрыя Гагарына на Алею Юзэфа Пілсудскага наступіла ў дзень прачытання прамовы.*

*Дастасоўваючыся да патрабаванняў некаторых радных, неадкладна перадаў я ў Гарадскую ўправу матэрыялы пра выдатнага гуманіста эпохі Адраджэння. Мне дужа непрыемна, што кніжкі, у большасці пазычаныя ў агульнаадукацыйным ліцэі, ужо два з палавінай месяцы ляжаць без карыстання. Сумнае найбольш, аднак, тое, што доўгае маўчанне вакол прапановы становіцца выразна ўсё больш адмоўным.*

*Пан Старшыня, я, беларускі радны, вельмі хацеў бы, каб дэмакратыя ў Бельску-Падляшскім была дэмакратыяй перш за ўсё верагоднай і маральнай, гэта значыць згоднай з хрысціянскай грамадскай этыкай. Разлічваю на зразуменне ў найбольш элементарнай справе“.*

Наступны і апошні раз узяў я голас пра вуліцу Скарыны на надзвычайнай сесіі 25 студзеня, скліканай беларускімі раднымі, каб палепшыць базу Пачатковай школы № 3 з беларускай мовай навучання (будынак па былых, пустуючы цяпер, дзіцячых яслях як на іронію рада аддала ва ўладанне санітарнай службе). Старшыня камісіі культуры і асветы (радны з „Салідарнасці“) адказаў мне, што яго камісія згодна адносна таго, каб іменем Скарыны назваць адну з вуліц, якія як новыя пабудуюцца ў будучыні. Тады я паставіў рытарычнае і драматычнае адначасова пытанне: ці вуліца будзе названа імем Скарыны ў гонар 1000-годдзя яго нараджэння?

Апошняя сесія Гарадской рады адбылася 26 лютага. Сярод шматлікіх спраў, вялікіх і малых, сур'ёзных, менш важных і зусім маргінальных (другі ўжо раз аб падатках ад сабак) у парадку дэбаты імя Скарыны не выступіла.

Сёння Скарынава слова гучыць у Беларусі гімнам Адраджэння. Толькі як нам у Бельску падымацца з каленяў на ногі? Як тут беларусам пазбавіцца комплексу нацыянальнай непаўнацэннасці? Абязмоўленасць, нацыянальны нігілізм, бяспамяцтва, неталерантнасць, страх і беспрацоўе — ці якраз гэта прапануюць нам мясцовыя бравы-палякі?

У артыкуле 1 Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, зацверджанай і абвешчанай у 1948 годзе Генеральнай Асамблеяй Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, напісана: „Усе людзі нараджаюцца свабоднымі і роўнымі ў сваёй годнасці і правах. Яны надзелены розумам і сумленнем і павінны ставіцца адзін да другога ў духу братэрства“.

**Юрка Баена**

**P.S.** Як мне сказала пані сакратар Гарадской управы, ніхто не цікавіўся матэрыяламі пра Скарыну.




**З ДАКУМЕНТАЎ ГЕНЕРАЛЬНАГА ШТАБА (ІІ АДДЗЕЛА), ВАРШАВА, 1928.**

**— 36 —**

**Раздзел XIX**

**Палонафільскія беларускія арганізацыі. „Зялёны дуб“. Беларускі палітычны камітэт. Генерал Ст. Булак-Балаховіч. Слуцкае паўстанне. „Краёвы Саюз“. Беларускія беспартыйныя актывісты.**

Сярод беларусаў існавалі не толькі антыпольскія арганізацыі. Было некалькі арганізацый, якія імкнуліся да апоры на Польшчы.

**Арганізацыя „Зялёны дуб“. Яе па**чатак звязаны з часам, калі руская армія, адступаючы пад напорам немцаў мусіла адыйсці з беларускага абшару. Салдаты і навабранцы — беларусы, не хочучы пакідаць айчынныя старонкі, пачалі хавацца па лясах. Згэтуль узяўся іх назоў „зялёныя“.

Пачаткова былі гэта разрозненыя банды дэзерціраў, пазбаўленыя акрэсленага плана дзейнасці, аднак з пэўным нацыянальным і антыбальшавіцкім каларытам.

У часе бальшавіцкай акупацыі ў 1918-1919 гадах „зялёныя“ праводзілі ў далейшым дыверсійныя акцыі. З цягам часу беларускія дзеячы стараліся прыбраць гэты рух у свае рукі.

У 1919 годзе ўзнікла беларуская сялянская партыя „Зялёны дуб“, якая імкнулася да стварэння Беларускай Народнай Рэспублікі, звязанай з Польшчай. Партыя мела свой кабінет міністраў і стварала падраздзяленні, якія разам з польскім войскам мелі змагацца з бальшавікамі і іх сімпатыкамі. Баявыя падраздзяленні партыі былі падзелены на т.зв. „пяцёркі“. На чале партыі „Зялёны дуб“ становіцца атаман Дзяргач (Дз. Адамовіч, сын), які быў адначасова камандуючым узброеных сілаў партыі. Партыя гэта, нягледзячы на сваю прыхільнасць да Польшчы, не мела вялікіх заслуг. У беларускім грамадстве не мела яна ўплываў і не магла паралізаваць дзейнасць эсэраў.

Восенню 1920 года дзякуючы Алексюку ўзнік у Варшаве „Беларускі палітычны камітэт“ у наступным складзе: Алексюк, Адамовіч (бацька), Яўген Міткевіч, Сянкевіч і іншыя. Дванаццатага кастрычніка 1920 года камітэт паразумеўся з ген. Булак-Балаховічам.

Асноўныя тэндэнцыі вышэй названай групы праяўляюцца ў лісце да ген. Балаховіча:

„Будучы глыбока перакананымі, што армія пана генерала, у складзе якой выступае так значная колькасць беларусаў, прынясе нашай краіне сапраўдную свабоду і магчымасць стварэння свайго дзяржаўнага побыту, прыступаем да супрацоўніцтва з вяльможным панам, моцна верачы, што наша прысутнасць дадасць гарту беларускаму жаўнеру, які змагаецца за існаванне сваёй айчыны, а беларускаму народу, на землях якога будзе праводзіцца змаганне, прынясем ахову ў ваенных завірухах, а адначасова прыдзем з дапамогай пры стварэнні неабходных форм адміністрацыйнага жыцця“.

Беларускі палітычны камітэт абавязаўся праводзіць вярбовачную дзейнасць з мэтай стварэння беларускай арміі пад камандаваннем ген. Булак-Балаховіча, які меў на занятых паступова этнічна беларускіх тэрыторыях аддаць цывільную ўладу гэтаму ж камітэту. Беларускі палітычны камітэт увайшоў у кантакт з Рускім палітычным камітэтам на чале з Савінкавым, які быў у істоце рускай арганізацыяй і гэтым прынёс болей шкоды чым карысці. Прычынай няўдач дзеянняў Савінкава былі былыя царскія генералы Перамыкін і Брэдаў. Генералы гэтыя недаацэньвалі дэмакратычныя ідэі Савінкава. Дзякуючы сваім перакананням і вайсковай сіле, якой распараджаліся, зрабілі тое, што арганізацыя Савінкава стала далёкай ад дэмакратычных ідэй і сталася манархісцкай сілай.

*(Працяг будзе)*

## КОНКУРС НА БЕЛАРУСКІ ВЕРШ ПАДСУМАВАНЫ

**(Працяг са стар. 2)**

ты — найчасцей выпускнікі гэтых ліцэяў.

Геаграфічна — вершы надышлі з Варшавы і ўсёй Беласточчыны: Беласток, Бельск, Гайнаўка, Сямяцічы, Гарадок і меншыя мясцовасці — Баброўнікі, Арэхавічы, Сакі, Белкі, Дыдулі, Пасекі і іншыя.

І месца журы прызнала Янку Целушэцкаму з Беластока (узяты пад увагу толькі вершы).

II месца — Альжбеце Томчук — студэнтцы з Бельска.

III месца — Дароце Кузьміч — студэнтцы з Гарадка

Вылучаны былі Васіль Петручук з Беластока і Янка Федзюкевіч з Баброўнікаў.

Спецыяльную ўзнагароду за рэкламны верш атрымаў Мікалай Лук'янюк з Белак.

Журы конкурсу з прыемнасцю прыняло прапанову спонсараў арганізаваць падобныя конкурсы часцей. **(яч)**

# ПА ТОЙ БОК „КРЭСАЎ"

**У мінскай газеце творчай інтэлігенцыі Беларусі „Літаратура і мастацтва" (№ 8 ад 22 лютага 1991 г.) з'явіўся артыкул Юрася Закрэўскага аб курсе для савецкіх палякаў, які праводзіўся ў мінулым годзе ў Беластоку. Удзельнікі курса цікавіліся, між іншым, сітуацыяй беларусаў у Польшчы і рабілі з гэтага адпаведныя вывады. Думаем, што нашым чытачам цікава будзе пазнаёміцца з імі і таму ў двух чарговых нумарах поўнасцю перадрукоўваем рэпартаж „Па той бок „крэсаў".**

### ПОЛЬСКІЯ ЎРАЖАННІ

Летась у ліпені-жніўні дзякуючы стараням вельмі ўплывовых і папулярных у Польшчы клерыкальных клубаў каталіцкай інтэлігенцыі і таварыстваў польскай культуры ў СССР „Палонія" для савецкіх палякаў у Варшаве, Кракаве, Торуні, Беластоку пры мясцовых універсітэтах адбыліся курсы польскай мовы, гісторыі і культуры. Адным з слухачоў такіх курсаў у Беластоку быў аўтар гэтых нататак.

### КУРСЫ

Кандыдаты падбіраюцца мясцовым таварыствам „Палонія", пасля спісы перадаюцца ў Польшчу, дзе мясцовыя клубы каталіцкай інтэлігенцыі афармляюць запрашэнні. Ваяводскія клубы каталіцкай інтэлігенцыі (КІК) папярэдне дамаўляюцца з гарадскімі ўладамі, з адміністрацыяй універсітэтаў аб памяшканнях для размяшчэння груп, аб арганізацыі харчавання, узгадняецца праграма выкладаў. Курсы фінансуюцца КІКамі, гарадскімі ўладамі, рознага роду фундатарамі. З грашыма праблем не ўзнікае. Курсы добра забяспечаны сродкамі, бо знаходзіцца шмат ахвяравальнікаў на „патрыятычную справу адраджэння польскасці на крэсах усходніх" (менавіта пад такім лозунгам ідзе збор грошай). У сярэднім, на кожнага слухача за тры тыдні курсаў выдаткуецца каля 1,5 млн. злотых, або 100-120 долараў ЗША.

Праграма разлічана на тры тыдні: два — лекцыі, трэці — экскурсія па Польшчы і адпачынак. Лекцыі адбываюцца з раніцы да абеду; пасля звычайна розныя сустрэчы, культурныя мерапрыемствы.

Лекцыі разлічаны на ўзбуджэнне польскіх патрыятычных настрояў. Пры гэтым вельмі тэндэнцыйна падаецца гісторыя „крэсаў усходніх", як называюць Беларусь, Украіну і Літву. Увогуле „крэсовая праблематыка" займае адно з галоўных месц у праграме. Варта сказаць, што пасля падзення камуністычнай улады праблема „крэсаў" не сыходзіць са старонак польскіх газет, часопісаў і стала адной з самых папулярных у Польшчы. Падчас курсаў слухачам пастаянна даводзяць, што яны з'яўляюцца „амбасадорамі культуры польскай на Усходзе", яны ў сваім месцы жыхарства павінны служыць польскасці і польскаму касцёлу, а маці-Польшча будзе ўсяляк спрыяць ім у гэтым служэнні.

Усе лекцыі, выклады і сустрэчы суправаджае таксама культ „Салідарнасці". Усяляк ухваляецца яе барацьба з камуністычным рэжымам. Практычна ўсе выкладчыкі, экскурсаводы і іншыя людзі, заангажаваныя ў арганізацыі курсаў, з'яўляюцца блізкімі да гэтай арганізацыі альбо да КІКаў.

Шмат гаворыцца слухачам курсаў аб подзвігах Арміі Краёвай. Праводзяцца сустрэчы з яе ветэранамі, якіх, дарэчы, багата ў саміх КІКах. Некаторых слухачоў курсаў пасяляюць на кватэрах у былых акоўцаў, сярод якіх шмат ураджэнцаў Віленшчыны, Міншчыны, Гродзеншчыны ды іншых раёнаў Беларусі.

Для слухачоў курсаў ксяндзы спецыяльна чытаюць лекцыі па рэлігіі. Шмат гаворыцца не так аб веры, як аб адраджэнні польскасці „на крэсах". Дарэчы, польскія ксяндзы выяўляюць сябе людзьмі вельмі дасведчанымі ў тым, што зараз адбываецца на тэрыторыі Беларусі, Украіны, Літвы, маюць звычайна там шмат знаёмых сярод ксяндзоў і актывістаў таварystваў.

У праграму ўваходзіць, звычайна, сустрэча з гарадскімі ўладамі, паміж якімі і КІКамі заўсёды вельмі цёплыя адносіны. Як прыклад, у якой атмасферы адбываюцца гэтыя спатканні, можна прывесці эпізод сустрэчы ў гарадской ратушы Беластока ўлад горада са слухачамі курсаў.

Зала ратушы з шыкоўным пачастункам. Заходнія віны, цукеркі, кава, садавіна. Выстава польскіх кніжак пра Вільню, Львоў, Гародню, Берасце, выстава польскіх мастакоў з Вільні. З польскага боку прысутнічаюць актывісты КІКа, мэр горада Беластока, дзеячы ваяводскага камітэта „Салідарнасці", ветэраны АК, ксёндз, ураджэнцы Гродзеншчыны, Навагрудчыны, прадстаўнік Таварыства прыяцеляў Вільні і Гародні, выкладчыкі і арганізатары курсаў. Адкрывае сустрэчу мэр горада прамовай, у якой гаворыцца аб цяжкіх гадах барацьбы з камуністамі, аб тым, што нарэшце прыйшоў час не толькі краху камунізму ва ўсходняй Еўропе, але — што больш важнае — блізіцца распад Савецкага Саюза і „мы павінны дапамагаць гэтаму". Мэр таксама гаворыць, што за ўсходняй мяжой Польшчы ляжаць польскія землі. Палякі заўжды памяталі аб гэтым, але не маглі пры камуністах дапамагаць сваім усходнім крэўным братам. Толькі цяпер ёсць магчымасць дапамагаць адраджэнню польскасці на крэсах, і гэта наша агульная задача! — гаворыць мэр. Пачынаецца пералік усяго зробленага для крэсаў: колькі кніжак на польскай мове, колькі тэлеперадач спецыяльна было трансліравана, колькі ксяндзоў з Польшчы паехалі працаваць туды... Мэр заклікае прысутных памятаць і прапагандаваць польскасць, якая, па яго словах, нясе ў сабе моцны дэмакратычны і маральны струмень, дзякуючы чаму палякі і выстаялі ў барацьбе з камунізмам. Мэр гаворыць, што патрыятычныя палякі адчуваюць свой патрыятычны абавязак дапамагаць матэрыяльна і маральна палякам на крэсах. Абяцае надалей арганізоўваць курсы, даваць студэнцкія стыпендыі, арганізоўваць лагеры адпачынку для дзяцей-палякаў і г.д. Пасля прамаўляюць у такім жа духу ўсе па чарзе.

Ад савецкага боку на сустрэчы ў Беластоку прамаўляў кіраўнік польскага таварыства ў Брэсце Міхал Дабрынін. Ён казаў аб адзінакроўных братах паабапал мяжы, дзякаваў за дапамогу і клопат аб „крэсовых паляках". Дабрынін, будучы ў Беластоку, пацікавіўся жыццём мясцовых беларусаў, і цяпер на сустрэчы падрабязна пачаў пералічваць, што маюць беларусы ў Польшчы і чаго не маюць палякі на Беларусі. На яго думку, беларусы далі вельмі мала палякам у Брэсце, хоць у Польшчы маюць нашмат болей — школу, газету, радыёперадачу. На думку Дабрыніна, усё сведчыць аб польскай добразычлівасці і дэмакратызме ў адносінах да беларускай меншасці. Палякаў жа на Беларусі, па словах Дабрыніна, каля 2,5 мільёна, але няма ўмоў для развіцця польскасці. Пан Дабрынін выказвае надзею, што польскасць будзе адроджана супольнымі намаганнямі двух бакоў. Па яго словах, палякаў на тэрыторыі

# РЭПЛІКА

(Працяг са стар. 4)

ды. Таксама і гадавіны святкуюцца ў школе па-старому, зусім нязгодна з духам часу. Таму й не дзіўна, што сярод вучняў кружаць нейкія антыдзяржаўныя пасквілі (адзін з іх — „Марш, марш, Валэнса" — напісаны вельмі па-аматарску і занудліва, я атрымаў на спатканні). Грамадзянскі камітэт лічыць М. Блашчука чалавекам слабахарактарным і малакампетэнтным, які быў добры на пасадзе дырэктара пры мінулай уладзе, а цяпер зусім непрыгодны. Сур'ёзны закід у адрас М. Блашчука — ягоная згода прыняць функцыю намесніка войта па прапанове войта Бартнічука. Паводле членаў Грамадзянскага камітэта ў Мілейчыцах, пасада дырэктара школы і функцыя намесніка войта — несумяшчальныя: адно выконвалася б за кошт другога. Тут, зрэшты, Грамадзянскі камітэт лічыць, што М. Блашчук цалкам „страціў свой твар", увайшоўшы ў хаўрус з войтам Мікалаем Бартнічуком. Пасля ўвядзення ваеннага становішча ў краіне М. Бартнічук вельмі шчыраваў перад тадышняй уладай, каб пазамятаць усе сляды „Салідарнасці" ў гміне. Пацярпела жонка М. Блашчука, якую войт звольніў з працы за прыналежнасць да „Салідарнасці". Зараз, калі сітуацыя радыкальна змянілася, наступіў даволі незразумелы саюз Блашчук-Бартнічук, нешта накшталт узаемападтрымкі. Бартнічук зрабіў Блашчука віцэ-войтам, а Блашчук прыняў Бартнічука на працу ў школе, каб той падзарабіў сабе да пенсіі. Гэта, як мне казалі члены Грамадзянскага камітэта, вельмі абурыла настаўнікаў у школе, якім і без таго не хапала „гадзін" дзеля ўкамплектавання штатаў.

— Чаму ж тады настаўнікі не пратэставалі супраць гэтай несправядлівасці, а, як здаецца, далей падтрымлівалі дырэктара Блашчука?

— А таму, што на адкрыцці школьнага года войт заявіў, што з пачаткам студзеня гміна пераймае школу на сваё ўтрыманне. Хто будзе пратэставаць, рызыкуючы папасці ў няласку войта, які меў стацца працадаўцам настаўнікаў? — адказалі мне прысутныя на сустрэчы.

Як быццам лагічна.

Зрэшты, гаварылі далей людзі з Камітэта, справу Блашчука нельга аддзяляць ад справы Бартнічука. У нашай гміне ўсё ўзаемазвязана, і справы, і людзі, са сваяцкімі сувязямі ўключна. На жаль, у гміне назіраецца стары стыль кіравання, нічога не змянілася пасля самаўрадавых выбараў. Выбары выйгралі „людзі войта", які займае сваю пасаду ад 16 гадоў. Няма шанцаў на тое, што сітуацыя гміны, эканамічна перад усім, палепшыцца. Войт не з'яўляецца добрым гаспадарнікам, што знайшло сваё непасрэднае адбіццё ў дзяржаўнай датацыі гміне. Мілейчыцы знаходзяцца на апошнім месцы ў ваяводстве — гміна атрымала з дзяржаўнай касы ўсяго 179 мільёнаў злотых. На гэтыя грошы не разжывешся. Войт і гмінная ўправа не маюць аніякага праекту, як выйсці з гэтай цяжкой сітуацыі. Здаецца, што і радных гэта не надта турбуе. Усё паказвае на тое, сказаў Ц. Акунеў-

Беларусі напаткала жудасная трагедыя — доўгі час камуністычная ўлада рабіла прафанацыю нацыянальнай свядомасці, у выніку чаго вялікая колькасць палякаў афіцыйна лічыцца сёння беларусамі. Дабрынін пералічвае іншыя злачынствы камуністаў у адносінах да палякаў, шчыра дзякуе за дапамогу палякам на Беларусі, выказвае пажаданне, каб больш ксяндзоў з Польшчы ехала працаваць на Беларусь „дзеля адраджэння веры, духу і польскасці“.

Між іншым, пан Дабрынін выказаў не ўсе свае ўражанні ад побыту ў Польшчы і думкі аб адраджэнні польскасці „на крэсах“. Ён шмат чытае аб Беларусі, цікавіцца беларускім нацыянальным рухам. Дабрынін з радасцю дзяліцца з палякамі ў неафіцыйных гутарках, што беларуская нацыянальная свядомасць не пашыраецца, што вучыць мову, размаўляць па-беларуску ў Берасці ніхто не хоча, дый увогуле Берасцейшчына ніколі не была беларускай — альбо польскай, альбо расейскай. На думку Дабрыніна, беларусы ўвогуле прымуць і будуць падпарадкоўвацца любой уладзе, бо самі яны наўрад ці здольны да стварэння „паньства власнэго“. Зрэшты, пан Дабрынін можа выказвацца і болей рашуча — як напрыклад: „Беларусы — гэта, канешне, быдла“. Шмат задавальнення атрымаў Дабрынін ад сустрэчы з супрацоўнікамі рэдакцыі беларускай газеты ў Беластоку „Ніва“, бо пасля з вялікай прыемнасцю адзначаў, што супрацоўнікі гавораць па-беларуску з моцным польскім акцэнтам, відаць, беларусы Беласточчыны хутка асімілююцца. Вельмі рады быў пан Дабрынін і таму, што польскія крамы поўныя самых розных тавараў, ды ўвогуле Польшча перажывае эканамічнае адраджэнне. На яго думку, польскі дабрабыт безумоўна толькі паспрыяе перамозе польскасці „на крэсах“. Праўда, дзеля справядлівасці варта сказаць, што Дабрынін не тлумачыў шырокаму колу суразмоўцаў — што за перамогу ён мае на ўвазе, затое ягоная сяброўка-спадарожніца чамусьці ўсё цвердзіла аб далучэнні Беларусі да Польшчы. „Так мусіць быць“, — упэўненым голасам казала яна.

Пасля афіцыйных прамоў размовы ўжо былі больш сяброўскія. Гаварылі аб польскай трагедыі (камуністычнае панаванне, захоп Саветамі „крэсаў“), чамусьці многа аб Беларусі і беларусах — аб неіснаванні беларусаў як нацыі, аб штучнасці беларускай мовы, аб польскіх межах на ўсходзе, аб тым, што толькі школа і ксяндзы могуць зараз адваяваць „крэсы“, аб супрацоўніцтве беларусаў з фашыстамі ды вынішчэнні імі разам з немцамі палякаў і г.д.

Каб у чытача не стварылася ўражанне перабольшання, варта падкрэсліць, што менавіта такая нервова-хваравітая атмасфера акружала слухачоў курсаў на працягу ўсяго знаходжання ў Польшчы. Некаторыя слухачы пад канец ужо не хавалі сваёй стомленасці.



*Беластоцкая ратуша.* *Фота Я. Целушэцкага.*

*(Заканчэнне будзе)*

**Юрась Закрэўскі**

# ЗА ШТО?

Многа людзей наракае, што пры папярэдняй уладзе было так дрэнна, што, здаецца, жыць было нельга. Аднак гэта няпраўда. Хто калісь чуў, каб людзі, жывучы ў сваім уласна збудаваным доме, плацілі падатак за яго плошчу і то штомесяц. За што плаціць? За тое, што сам будаваў?

У блёку справа іншая. Чалавек плаціў складчыны і чакаў чаргі. Не клапаціўся ён, што трэба купіць матэрыял, наняць рабочых, даць ім абед. Атрымаў сваю кватэру, зрабіў рамонт і не трэба клапаціцца, што трэба дроў, вугалю.

У сваім уласным доме колькі трэба турбот, каб мець ваду, ванную. Хто гэта выдумаў, каб плаціць за плошчу сялянам і іншым, якія маюць уласныя дамы. Гэта вялікая несправядлівасць. Заплаціць падатак за ўсе будынкі і яшчэ за пляц і што табе астанецца? Можа выйсці так, што грошай не хопіць на ўсе аплаты. Сялянам мала плоцяць за іх прадукты, а ўсё іншае дарагое. Тое самае з пенсіянерамі і рабочымі. Зарабляюць не вельмі многа, а цэны „шалеюць“.

Калі дойдзе да таго, што людзі будуць плаціць за ўсё, што маюць, то ў краіне будзе пустэча. Хто вытрымае фінансава? Можа, аднак, урад зробіць так, каб людзям хапіла грошай на ўсе аплаты ды яшчэ сабе на жыццё асталося?

**Аўрора**

скі, што Мілейчыцы найхутчэй з усіх гмінаў на Беласточчыне дачакаюцца ўрадавага камісара.

— Як гэта сталася, што Грамадзянскі камітэт, правёўшы досыць шырока выбарчую кампанію, згуртаваўшы ў сваіх радах і праваслаўных і каталікаў, так выразна прайграў выбары з „людзьмі войта“, якія, як прызнаваліся ў радыёперадачы, прысвечанай Мілейчыцам, аніякай кампаніі не праводзілі і не мелі аніякай выбарчай праграмы?

Тут члены Камітэта давалі розныя тлумачэнні. Па-першае, людзі ў гміне даволі апатычныя, што тычыцца палітычнай ангажаванасці. Не верылі ў тое, што ад выбараў, ад іхняга голасу будзе нешта залежыць. Не прызвычаіліся яшчэ думаць пра сябе як пра суб'ектаў у гміннай палітыцы. Інакш кажучы, экіпе войта не надта даверылі, але прагаласавалі па прынцыпе інертнасці, за старую кампанію. Па-другое, шмат у чым выбары залежылі ад „шаптанай прапаганды“, якую правёў „войтаў“ выбарчы камітэт.

Ні адно, ні другое тлумачэнне цалкавіта мяне не задаволіла. Хутчэй за ўсё спрацаваў тут агульны для праваслаўных недавер да Грамадзянскіх камітэтаў, як выказнікаў прасалідарнікай плыні. Іншая справа, што Грамадзянскаму камітэту ў Мілейчыцкай гміне ўдалося згуртаваць у сваіх радах даволі прадстаўнічую групу людзей, значная частка з якіх — гэта людзі маладыя і з адукацыяй, як праваслаўных, так і каталікаў, партыйных (колішніх) і беспартыйных. Якую палітычную арыентацыю прыме Грамадзянскі камітэт цяпер, перад парламенцкімі выбарамі? Пані Гладская, лекар-дантыст у Мілейчыцах, паведамляе, што Камітэт, а прынамсі яго актывісты, будуць падтрымліваць „Паразуменне Цэнтрум“, гэта значыць, правалэнсаўскую арыентацыю.

Цяперака сітуацыя ў гміне не дужа цікавая. Палітычнае змаганне з перадвыбарчага перыяду зараз перанеслася ў асабістую сферу. Галена Пархоменка (настаўніца-пенсіянерка), якая арганізавала экскурсію дзяцей у Пачаеў, расказвае, што войт асабіста паехаў у Кляшчэлі, дзе ёй давалі транспарт, каб перашкодзіць у гэтым... Нібыта таму, што яна як каталічка можа сабе арганізаваць паездку ў Чэнстахову, а не ў Пачаеў...

Другая справа, якая абурыла шмат каго ў гміне, гэта змена назваў вуліц у Мілейчыцах. Гмінная рада, не кансультуючыся з людзьмі, перайменавала назвы вуліц згодна з духам новага часу. Былі зменены назвы трох вуліц, што насілі імя ППР-аўскіх сакратароў, якія загінулі ў Мілейчыцах зараз пасля вайны. Усё дзеля таго, каб спадабацца новай уладзе. Тыя, што зусім нядаўна рупіліся пра 100-працэнтную партыйнасць працаўнікоў у гміне, цяпер самі сціраюць памяць аб сваіх таварышах...

**Ян Максімюк**




**ПРЫВАТНЫ** (Беласточчына). 33 гады. Жыву на вёсцы з бацькамі. Маю сваю гаспадарку (9 гектараў), вялікі дом. Сам я сярэдняга росту, нябрыдкі, спакойнага характару, выглядаю молада. Сярэдняя адукацыя. Шукаю скромнай дзяўчыны, якая не баіцца таго, што яе хлопец жыве на вёсцы.

* * *

**ЯШЧЭ ХАЛАСТЫ**, а ўжо не такі малады, самастойны навуковы работнік Медычнай акадэміі ў Беластоку шукае дарослай (29—35 гадоў), праваслаўнай, хаця б крыху адукаванай дзяўчыны, прыгожай і стройнай, якая яшчэ поўнасцю не апалячылася і шануе культуру сваіх продкаў. Чакаю прапаноў з фатаграфіямі.

* * *

**Ад рэдакцыі:** Напамінаем, што жадаючыя даць аб'яву ў рубрыцы „Вянок“ павінны падаць у лісце свой псеўданім і адрас для карэспандэнцыі. Забяспечваем абсалютную сакрэтнасць!

## НІНА АМЕЛЬЯНЮК
# ГУТАРКІ АБ МОВЕ

### IV. СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА. МАРФАЛОГІЯ.

**16. Часціцы — працяг.**

*Пытальныя часціцы* могуць надаваць пытанню розныя эмацыянальныя адценні: радасць, захапленне, сумненне, меркаванне, няўпэўненасць. Адносяцца да іх такія часціцы, як: *ці, хіба, няўжо, а, га, ну, так — Няўжо ж ён (дзед Талаш) не схіліць на свой бок камандзіра?* (К-с)

*Параўнальныя часціцы: бы, нібы, як бы, быццам, як быццам, быццам бы — Дзяўчынка стаяла ў сонцы быццам ужо ў бяздум'і.* (К.Ч.)

*Пабуджальныя (мадальна-валявыя) часціцы* выражаюць пабуджэнне да дзеяння, пажаданне, просьбу, прапанову: *бы (б), няхай (хай), дай (дайце), давай (давайце), ну — Хутчэй бы прайсці, праскочыць гэта страшнае месца.* (Лыньк.). Пры выражэнні жарту, іроніі, праклёну, часта выкарыстоўваецца часціца *бадай — „Куды?“ — „У Парэчча, у балота!..“ — „Бадай ты спрахла! от брыдота!“* (К-с)

*Эмацыянальныя часціцы* выражаюць эмацыянальную ацэнку выказвання (радасць, захапленне, здзіўленне) або ўзмацняюць яго выразнасць. Адносяцца да іх часціцы:

— *клічныя: што за, няхай (хай), як, ну і, вось дык — „Што за дзяўчына! Што за натура!“, — колькі разоў паўтарыў малады шчаслівы настаўнік.* (К-с),

— *узмацняльныя: нават, ды, дык, ж (жа), аж (ажно), — такі — Звон быў моцны, аж глушыў.* (К.Ч.)

*Словаўтваральныя і формаўтваральныя часціцы* служаць для ўтварэння новых слоў ці новых форм слоў і выконваюць ролю словаўтваральных ці формаўтваральных афіксаў:

— *словаўтваральныя: не — (небяспека, нецікавы, нечакана, недзе, некалі, нехта, нешта), ні — (ніхто, нішто, ніякі, нічый, ніколі, нідзе), абы- (абы-хто, абы-што, абы-які), -небудзь (хто-небудзь, што-небудзь, дзе-небудзь, калі-небудзь), -сьці/-сь // хтосьці // хтось, штосьці // штось, дзесьці // дзесь, калісьці // калісь;*

— *формаўтваральныя: бы(б)* утварае формы ўмоўнага ладу — *Кожнае дрэва абвіў бы рукамі, ночы і дні гаварыў бы я з борам.* (М.Т.); *няхай (хай)* утварае аналітычныя (складаныя) формы загаднага ладу 3 асобы адзіночнага і множнага ліку: *няхай скажа, няхай скажуць — Няхай растуць спакойна нашы дзеці, няхай рашаюць цяжкія задачы, няхай працуюць, думаюць і мараць пра новы дзень і пра наступны век.* (Грах.): *-ся (-ца, -цца)* служыць для ўтварэння зваротных дзеясловаў: *сустрэліся, наесца, адзявацца.*

„У залежнасці ад марфалагічнага складу часціцы падзяляюцца на простыя і састаўныя. Да *простых* адносяцца часціцы, якія складаюцца з аднаго слова: *але, аж, амаль, вось, не, ні, няхай, хіба, ці, як. Састаўныя* часціцы складаюцца пераважна з двух слоў: *вось дык, ну і, хіба толькі, хоць бы, што за, як бы*“.[1]

**ПАДЗЕЛ ЧАСЦІЦ**

**ПАВОДЛЕ ЗНАЧЭННЯ**

| | |
|---|---|
| 1. сэнсавыя | а) указальныя<br>б) азначальна-ўдакладняльныя<br>в) выдзяляльна-абмежавальныя |
| 2. мадальныя | а) сцвярджальныя<br>б) адмоўныя<br>в) пытальныя<br>г) параўнальныя<br>д) пабуджальныя (мадальна-валявыя) |
| 3. эмацыянальныя | а) клічныя<br>б) узмацняльныя |
| 4. слова- і формаўтваральныя | а) словаўтваральныя<br>б) формаўтваральныя |

**ПАВОДЛЕ БУДОВЫ**

1. простыя
2. састаўныя

[1] Я. М. Адамовіч, Часціцы, у: Сучасная беларуская літаратурная мова пад рэд. Ф. М. Янкоўскага, Мінск 1980, с. 223.

# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка, у майго мужа ёсць малодшы брат. Розніца ў іх вялікая — аж 16 гадоў. І заўсёды гэты сімпатычны хлопец быў для мяне дзіцём, дапамагаў выхоўваць нашых дзяцей. А вось цяпер узяў ды ажаніўся. Але сталася гэта неяк дзіўна і мушу табе пра гэта расказаць.

Два гады ён хадзіў з вельмі прыгожай дзяўчынай. Мы нават і не думалі, што яны не пажэняцца. Ён нават і маці ўжо казаў: пачакаюць яшчэ які год, бо толькі пачалі вучыцца ў вышэйшай школе, а пасля пажэняцца. Усё здарылася вельмі неспадзявана. Пасля летніх канікулаў мой швагер нават не глянуў у бок сваёй дзяўчыны. Проста перастала яму падабацца і ўсё. Мы ўжо нават і ўцешыліся; думаем, ну, дзякуй Богу, скончыць ён шчасліва школу, а што хлопец прыстойны, дык дзяўчат яму хопіць. Аж тут ад кастрычніка зусім неспадзявана пачаў хадзіць з другой дзяўчынай. Дзяўчына была намнога брыдчэйшая за тую першую, але відаць было, што надта ліпне да яго.

У чэрвені наступнага года згулялі вяселле. Я глядзела на маладую пару і ў мяне душа балела: такі прыгажун, такі прыстойны, а ўзяў такое абы-што! Праз пяць месяцаў нарадзілася ў іх дзіця. Ну, тут ужо справа крыху праяснілася. Думаю: ажаніўся ён дзеля гэтага дзіцяці. Але ён пераконвае мяне ўвесь час, што ён гэтую дзяўчыну кахае, што менавіта яе чакаў усё сваё жыццё і толькі з ёй будзе яму добра. Ходзяць каля гэтага дзіцяці, як каля нейкага крышталу, яна нават узяла дзеканскі водпуск, а ён надалей ходзіць на заняткі, а ўначы яшчэ часта дарабляе ў „хуткай дапамозе“ (бо яны штудзіруюць медыцыну). Жывуць з яго бацькамі, дык, вядома, ім не кепска, свёкар і свякруха яшчэ працуюць.

Але вось гляджу я на майго „маленькага“ швагра і ўсё мяне мучыць думка. Навошта яму было ўсё гэта? Неяк змяніўся ён. Калісьці, пры той першай дзяўчыне, ён быў заўсёды вясёлы, шчаслівы і ўпэўнены ў сабе. Цяпер жа ён стаў нейкі шэры, не стараецца ўжо так апранацца, няма ў ім той радасці жыцця, акунуўся ў звычайныя хатнія праблемы. І куды ж ён падзеўся, той малады чароўны хлапец... Шкада мне яго! Дарагое Сэрцайка, як ты думаеш, ці мусіў ён жаніцца з той дзяўчынай, бо думаю, што зрабіў ён гэта толькі дзеля дзіцяці... А мой муж дык сказаў проста: „Умела яму даць...“

**Лена**

Лена! Твой муж, бадай, меў найбольшую рацыю, бо і гэта трэба ўмець. Усё ў жанчыне для мужчыны неабыякава. А тое, што не была яна такая прыгожая, як першая дзяўчына, не мае ніякага значэння. Калі трэба, відаць, умее расцвітаць, быццам ружа. А тое, што твой „маленькі“ швагер выглядае цяпер звычайней, дык гэта зусім зразумела, калі ўлічыць, што ён студэнт і мусіць здаваць экзамены, па начах яшчэ хоча часамі дарабіць пару грошай, а тут дзіця спаць не дае... Але неўзабаве ён з гэтага вырасце. І стане такі, які быў. Ці ты не зайздросная крыху?

**Сэрцайка**




### РЫБА ПА-СТАРАПОЛЬСКУ

На 1 кг карпа або шчупака ўзяць 20 дэкаў цыбулі, 2 зубкі часнаку, 1 шклянку белага сухога віна, 5 дэкаў масла, 1 шклянку смятаны, соль, перац, пасечаную зялёную пятрушку.

Памытую і пачышчаную рыбу нарэзаць у званочкі. Цыбулю абабраць, пасячы, абабраць і пасячы часнок, расцерці яго з соллю. Цыбулю і часнок тушыць з маслам, калі цыбуля пачне жаўцець, дадаць віно, давесці да кіпення, дадаць солі і перцу. Кавалкі рыбы палажыць у вогнетрывалы посуд, заліць вінным соусам, уставіць у нагрэтую духоўку на паўгадзіны. Пячы пад пакрыўкай. Спечаныя порцыі рыбы асцярожна выняць, палажыць на падагрэтую талерку, накрыць яе і паставіць на пару. Соус зліць у каструльку, закіпяціць, заправіць смятанай, соллю і перцам, перамяшаць з пятрушкай. Гарачым соусам заліць рыбу. Падаваць яе з варанай бульбай.

### РЫБА З ХРЭННЫМ СОУСАМ

На 1 кг рыбы трэба ўзяць лыжку масла, шклянку смятаны або паўшклянкі малака і смятаны, паўлыжкі мукі, 2 жаўткі, 2 лыжкі сцертага хрэну, соль, цукар.

Рыбу памыць, пачысціць, адрэзаць галаву і хвост, пасаліць. палажыць на вогнетрывалы посуд, змазаны тлушчам. Зверху рыбу змазаць застаўшымся маслам. Уставіць у гарачую духоўку і хутка падпячы. Тады выняць і заліць соусам, падрыхтаваным наступным чынам. Прасеяную муку перамешваем са смятанай, падаграваем, каб згусцела, перамешваем з жаўткамі, дадаем палавіну хрэну, крыху цукру, соль. Залітую соусам рыбу трэба ізноў уставіць у духоўку і пасыпаць зверху рэшткай хрэну. Запячы. Падаваць з печанай або варанай бульбай і салатай.

### ПЕЧАНАЯ РЫБА

На 1 кг марской рыбы трэба ўзяць 15 дэкаў свежай саланіны, 1 кілішак белага сухога віна, лыжку чабару, лыжку эстрагону, 3 зубкі часнаку, соль, перац, 3-4 лыжкі пасечанай зялёнай пятрушкі.

Размарожаную рыбу памыць, нацерці зёлкамі. Часнок абабраць, пасячы, расцерці з соллю. Падрыхтаванай масай змазаць рыбу ў сярэдзіне і зверху, паставіць яе на гадзіну ў халадзільнік. Саланіну нарэзаць тоненькімі скрылёчкамі. Палавінай іх аблажыць дно вогнетрывалага посуду. На гэта палажыць рыбу, пасыпаць яе соллю і перцам, зверху роўненька аблажыць скрылёчкамі саланіны. Спячы ў гарачай духоўцы, у самым канцы паліўшы віном і яшчэ некалькі мінут дапякаючы.

**Гаспадыня**

# ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астроне! Мне прысніўся дзіўны сон. Быццам была я ў сваёй сяброўкі з класа, мы да яе ходзім па малако. Я там была са сваёй мамай. Бачу, што ў іх па панадворку бегаюць розныя зверы: дзікі, зайцы і многія іншыя. Раптам у іхнія сені ўбег звер, якога я яшчэ не бачыла на вочы. Усё гэта адбывалася ўначы. Мы з мамай пачалі гэтага звера біць мётламі, а ён сказаў нам чалавечым голасам: „Не біце мяне, я вам дапамагу!“. І мы яго біць перасталі. Я адыходзіла дахаты, а мая мама сказала, што яна яшчэ тут пасядзіць.

Я ішла па вуліцы, паглядзела назад і ўбачыла дваіх людзей, якія ішлі за мною. Я пачала ісці хутчэй, яны таксама. Тады я пабегла — і яны за мною. Раптам я ўваходжу на сваю вуліцу і бачу маму. Пачынаю крычаць, каб яна мне дапамагла, бо гэтыя людзі хочуць мяне забіць. Я ўваходжу на свой панадворак і раптам ужо стаўся дзень.

Я чую жалобную песню, а потым бачу, як мой бацька і нейкія тры мужчыны нясуць у труне нябожчыка. Я пытаюся ў мамы, хто гэта такі. Яна кажа, што гэта яе бабуля і яшчэ сказала, што яна вельмі рана пахавала сваіх дзетак. Уваходжу ў дом і бачу другую труну. Адчыняю яе, а там ляжаць мае сабака і кошка. Я пачала пытаць у мамы, чым яна іх забіла. Мама адказала мне, што яны здохлі, калі ўбачылі гэту бабулю.

Я пачала плакаць і пачула, што нехта мяне трасе. Тады прачнулася, а гэта мая мама будзіла мяне ў школу.

Скажы, Астроне, ці можа гэта мець нейкую сувязь з экзаменамі ў ліцэй, таму што я ў гэтым годзе буду здаваць экзамены?

**Агнешка**

Агнешка! Усе твае сны сведчаць аб нейкай вялікай небяспецы. Цяжка мне сказаць, што гэта будзе, але будзе нейкі смутак з прычыны страты ці хваробы. Усе элементы тваіх сноў гавораць аб гэтым: і розныя звяры, і тое, што вы білі звера, і тое, што цябе нехта праследаваў, каб забіць, і бабуля ў труне, і сабака, і кошка. Крыху надзеі даюць два элементы тваіх сноў: менавіта тое, што труна, калі сніцца маладым, дык прадвяшчае добрае, ды тое, што ты расплакалася ў канцы ночы. А яшчэ тое, што вы ўсё ж перасталі таго звера біць.

**Астрон**

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Максім Багдановіч

## Перад паводкай

**Праясняецца пагода,**
**Бо вярнулася вясна.**
**Ўсё чакаеш, што прырода**
**Ўстрапянецца ада сна.**

**І пад птушы крык і гоман,**
**Даўшы хвалям вольны ход.**
**Прыпадыме бацька Нёман**
**На хрыбце магутны лёд.**

**Зазвіняць жалобна крыгі,**
**І бурлівая вада**
**Снег, размоклы ў час адлігі,**
**Змые з луга без сляда.**

**Дык разлійся жа раздольна**
**Ў чыстым полі і гаю**
**І красой паводкі вольнай**
**Душу выпрастай маю!**





Уладзімір Ліпскі

## РАЗУМНЫ ПЕЎНІК



Жылі-былі дзядуля і пеўнік. Дружна жылі, у згодзе. Дзядуля каля хаты завіхаўся ды грэўся на сонейку, а пеўнік збіраў зярняткі ды весела спяваў.

Аднойчы пайшоў пеўнік пагуляць. Ішоў, ішоў і апынуўся ў лесе. Цікава там: трава высокая, дрэвы вялікія, жучкоў і казюлек розных не злічыць.

Загуляўся пеўнік, аж раптам чуе: туп-туп... Прыгледзеўся, а гэта бягуць па сцежцы воўк і ліс. Бягуць і пра нешта паміж сабой размаўляюць.

Пеўнік пад корч схаваўся, лістком накрыўся, слухае.

— Вой, як есці хочацца! — стогне воўк.

— І ў мяне жывот пусты, — скардзіцца ліс. — Нічога з учарашняга дня не еў.

— Чуў я, браце ліс, што недзе на ўзлеску хатка стаіць, а ў ёй певень і дзядуля жывуць.

— Вось бы нам да іх! — аблізнуўся ліс. — Мне б і пеўніка хапіла. Толькі дзе ж тая хатка?

— Вунь воблака плыве. Можа, яно ведае? Давай спытаем, — прапанаваў воўк.

— Давай, — згадзіўся ліс.

Воўк сеў на заднія лапы, закінуў галаву ўверх і завыў.

— Во-облака, во-облака, скажы, дзе жыву-уць дзядуля і пеўнік?

Але воблака не сказала, дзе шукаць дзядулю і пеўніка, хаця і ведала. Яно нахмурылася і пралілося на злыдняў халодным дажджом. Воўк з лісам — пад выварацень. Сядзяць на мокрых хвастах і скавычуць.

Перастаў дождж, сонейка выглянула. Падумаў пеўнік, што ваўка з лісам і блізка няма, вылез са сваёй схованкі. Ускочыў на пянёк ды ад радасці я-як закрычыць на ўвесь лес.

— Ку-ка-рэ-ку!

Пачулі воўк з лісам — і да пеўніка. А той наўцёкі!

— Стой, певень! — хрыпатым голасам закрычаў воўк.

— Пеўнік, пачакай, — просіць ліс.

Бяжыць пеўнік па сцежцы хутка-хутка, крыламі лапоча, нагамі памагае. А воўк — напрасткі, праз гушчар, каб спеваку дарогу адрэзаць.

Выскачыў пеўнік на ўскраек лесу — хата дзядулева ўжо відна, а ратунку няма: апярэдзіў яго воўк.

— Стой, певень! — крычыць. — Ад мяне не ўцячэш! З'ем цябе зараз! І дзядулю праглыну!

Задрыжэў пеўнік, аж прысеў ад страху і вочы заплюшчыў: не жыць яму болей на свеце.

Тут і ліс падбег:

— Адступіся, воўк, гэта мой абед!

— Чаму твой? — раззлаваўся воўк.

— Певень малы, худы, якраз мне аднаму, — сказаў ліс.

— А я галодны застануся? — зароў воўк.

Пеўнік тым часам крыху ачомаўся ад страху.

**(Працяг на стар. 10)**

Станіслаў Шушкевіч

### СПРЭЧКА НА ПРАТАЛІНЕ

Сіняя пралеска на праталіне,
Ля сасны, шалёным ветрам
зваленай,
Радасна ускрыкнула
на прагаліне:

— Першай я вясну сустрэла
сёлета,
Мною ледзяное покрыва тут
расколата,
Сонца сыпле мне праменняў
золата.

Кветка-сон сказала вельмі
коратка:
— Я з-пад снегу першай
выскачыла сёлета,
О, мая пралеска, маё золатка!

Засмяяўся жаваранак
з паднябеснай высі:
— Лепш бы вы спрачацца
зараклíся
Ды вітаць вясну і сонейка
ўзяліся.

### ЛЯЦЕЛІ ГУСІ З ВЫРАЮ

Вясёлыя, імклівыя
Ляцелі гусі з выраю,
Спусціліся на Вілію
Чародкаю крыклівáю.

Нібы сказалі: — Сорамна!
Нібы сказалі: — Гора нам!
Мы крылы павярэдзілі,
Шпакі ж нас апярэдзілі...

І стала ціха, ціха так...
Ды не змаўкаў на дрэве шпак,
Узнёсла, устрывожана
Вітаў ён падарожнікаў.

Зноў шэрыя, імклівыя
Ўзняліся па-над Віліяй.
Сустрэў іх месяц з зорамі
Над рэкамі, азёрамі.

Ляцяць яны, гамонячы,
Далей, далей да поўначы,
Дзе тундра-багна мшыстая,
Вада наўкол празрыстая.

Уладзімір Мацвеенка




### ЗАЙКІ-ЗАГАДАЙКІ

84

Ён над вуліцай сядзіць,
Ён на вуліцу глядзіць.
Як зялёны заміргае —
Пераходзіць дазваляе,
Жоўты — знак перасцярогі,
Уцякай хутчэй з дарогі!
А чырвоны загарыцца —
Трэба тут жа прыпыніцца.

85

Шпакоўня сіняя прыбіта
І ўдзень і ўноч яна адкрыта.
І каляровыя шпакі
Лятуць з яе ва ўсе бакі...

86

Нараджаюцца ў прыродзе,
Потым на трубаправодзе
З Урэнгоя аж да вас
Па трубе іду я ...

☼

Адказ на адгаданкі знойдзеш у наступным нумары.

☼

Адказ на загадкі з папярэдняга нумара: 80. Неба. 81. Кіно. 82. Сон. 83. Вешалка.

# ДЗІЦЯЧЫЯ МАЛЮНКІ



*Малюнак да казкі „У страха вочы вялікія". Анэта Юрчук, III клас, школа ў Чыжах.*

## Вучнёўская творчасць

*Мая любімая жывёла — сабака Нука. Сабака чорны і кашлаты. Нука вельмі любіць забаўляцца.*

*Аднойчы, калі было прыгожае надвор'е, я рашыў з Нукай пайсці пагуляць у лес. Неўзабаве сабака ўбачыў зайку і кінуўся за ім. Заяц перапужаўся і пачаў бегаць па дарозе. Над'ехаў чалавек на веласіпедзе, і заяц трапіў пад колы. Селянін зваліўся з веласіпеда. Заяц хутка ўцёк. Мы з Нукай падбеглі да чалавека. Я памог яму ўстаць з шашы.*

*Я доўга ўспамінаў гэтае небывалае здарэнне.*

**Андрэй Дзмітрук**
IV клас, школа ў Храбалах

### ВЯЛІКІЯ ВУШЫ

Якія вялікія вушы!
Наш сябра вушаты,
Худы і высокі,
Толькі на падказку
Свае вушы мае.
Але ніколі
Добра не пачуе.
Мама яму кажа:
— Прынясі вады!
А ён не пачуў
І прынёс смалы.

**Міша Баран**
VI клас, школа ў Малінніках

### ЗАЙЧЫК-ХВАТ

Раз-два-тры-чатыры-пяць,
У мяне ёсць зайчык-хват.
Ён раненька устае,
Мыецца і ў школу йдзе!

**Галена Баравік**
VI клас, школа ў Малінніках



*Кошка Кубусь Манікі Дзявульскай са школы ў Храбалах.*

## ПАГЛЫБЛЯЙ СВАЕ ВЕДЫ

### МЯДЗВЕДЗЬ БУРЫ

Мядзведзь буры жыве ў Еўразіі, Паўночнай Амерыцы, Паўночнай Афрыцы, у старых мяшаных і хваёвых лясах, якія перамяжоўваюцца з палянамі, лугамі, рэчкамі, мохавымі балотамі. Вораг мядзведзя — воўк.

Мядзведзь — усёедны. Асначны корм мядзведзя — лісце і карэнішчы травяністых раслін, ягады, арэхі, жалуды. Мядзведзь у ліпені — жніўні наведваецца ў пасевы аўса. Спусташае гнёзды дзікіх і вуллі свойскіх пчол. Мядзведзь кормiцца мурашкамі і іншымі насякомымі, чарвямі, нападае на ласёў, дзікоў, коней, буйную рагатую жывёлу.

Даўжыня цела мядзведзя — 197-238 см, вышыня ў карку 120-132 см, маса 230-387 кг. Самкі драбнейшыя за самцоў. Поўсць густая, доўгая, цёмнабурая або амаль чорная, у медзведзянят (да 4-месячнага ўзросту) белы „ашыйнік". Мядзведзі ліняюць 1 раз за год (у красавіку-чэрвені). У мядзведзя лапы 5-пальцыя. Мядзведзь мае добры нюх, горшыя слых і зрок. Палавая спеласць настае ў 3-гадовым узросце. Цяжарнасць мядзведзіцы — каля 7 месяцаў. Нараджаюцца па 1-2, радзей 3 медзведзянят (у студзені-лютым), цяжарам 0,5-0,6 кг. Дзеці трымаюцца мядзведзіцы 1-2 гады.

Мядзведзь у халодныя і снежныя зімы залягае ў спячку з 2-й паловы лістапада, а ў цёплыя і маласнежныя зімы залягае пазней або не залягае зусім. Мядзведзь бярлогу робіць у густым зарасніку маладога ельніку або алешніку, сярод буралому, пад вывернутымі дрэвамі. Мядзведзь спіць чуйна, хутка прачынаецца ад пабочных гукаў. Канчаткова прачынаецца ў канцы сакавіка.

Мядзведзь жыве 15-20 гадоў.



## Пішуць школьнікі

**Дарагая „Зорачка"!**

Я вучуся ў 4 класе Пачатковай школы ў Храбалах. Хачу расказаць табе, як я правяла зімнія канікулы.

У Мінск паехала 28 дзяцей з Беласточчыны, сярод якіх была і я. У сталіцу Беларусі мы ехалі ў нядзелю. Мінскія дзеці гасцілі нас у сваіх кватэрах. Я жыла ў Наташы. У панядзелак мы былі на экскурсіі, аглядалі горад. Хадзілі ў музей, паехалі на магілы заслужаных людзей Беларусі.

У аўторак мы выступалі на сцэне. Мы падрыхтавалі п'есы, вершы і песні. У сераду, 5 лютага, у нас быў свабодны дзень. У чацвер і пятніцу мы зноў выступалі.

Я пазнаёмілася з многімі дзяўчатамі з Мінска. Дадому вярнуліся мы ў суботу.

Канікулы правяла я весела. Маю што ўспамінаць!

**Марта Аляксеюк**

## ПАЗНАЁМІМСЯ

211030, БССР, Віцебская вобл., г. Орша, вул. Матросава, д. 43, кв. 29. **Фараносавай Таццяне.** (14 гадоў).

✲

220096, БССР, г. Мінск, пр. Убарэвіча, 8-46. **Аўруціну Аляксандру.** (14 гадоў). Збірае старыя манеты, цікавіцца гісторыяй старажытнай Беларусі. Можна пісаць па-польску, будзе адказваць па-руску ці па-беларуску. Хоча пазнаёміцца з дзяўчынкай яго ўзросту).

### ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

У адной краіне, дзе жыве вельмі многа скнараў, настаўнік на ўроку хіміі вынімае з кішэні манету і пытае:

— Маккінлі, скажы мне, ці гэтая манета распусціцца, калі кіну яе ў азотную кіслату?

— Не! — рашуча адказвае вучань.

— Чаму?

— Бо калі б яна мела распусціцца, вы ніколі яе туды не ўкінулі б!

# Разумны пеўнік

(Працяг са стар. 9)

— Не злуйся, воўк, — сказаў ён ціхім голасам, — паблізу мой дзядуля жыве. Вунь ягоная хатка пад чорным дахам. Адпусці мяне, дык я папрашу, каб ён вам добрую вячэру падрыхтаваў.

Падумалі-падумалі воўк з лісам і адпусцілі пеўніка.

А вечарам прыйшлі да дзядулевай хаткі, грукаюць у акно:

— Дзед, вынось вячэру!

— Але, але, — пачуўся з хаты дзядулеў голас, — расхінайце мех, я ўкіну туды барана.

Воўк і ліс расхінулі пад акном вялікі мех. Акно расчынілася, і нешта жывое бух туды! Воўк закінуў мех на плечы і бягом у лес. Ліс за ім ледзь паспяваў.

Спыніліся, развязалі матузок. А з меха — я-як выскачыць сабака! Ды вялізны-вялізны! Злосны-злосны! Сабака як загыркаў, як забрахаў на ўвесь лес! Воўк з лісам ад нечаканасці ледзь не пападалі. Ім падалося, што на іх нападае страшэнны звярына.

— Вой! Вой! Ратуйце! — закрычалі яны ў два галасы і далі дзёру.

А дзядуля з тае пары стаў яшчэ больш любіць і шанаваць свайго пеўніка, бо ён жа не толькі галасісты, але і разумны.

# А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А




*Адгадайце, якія з намаляваных тут гадзіннікаў першы пакажа гадзіну 10. А калі хочаце адгадаць далей, падайце чарговасць апошніх гадзіннікаў.*


Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Suraska 1, „Зорка".

